Opłata pocztow[...]

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 17—(5[...] [...]ьня, 5 траўня 1928 году.

Год II.



# Беларускі Дзень

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8 — 20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Два твары.

Кожная амаль палітычная партыя для дасягненьня сваіх мэтаў кідае іншы раз розныя дэмагогічныя лёзунгі, ў рэалізацыю каторых ня верыць і гэткім чынам, для здабыцьця сабе ўплываў над цёмнымі масамі, проста ашуквае іх.

І калі гэнае сумнае зьявішча ў іншых палітычных арганізацыях мае свае межы, і выкарыстоўвaецца імі, як неабходнасьць барацьбы з сваім палітычным праціўнікам тым самым аружжам, якім ваюе і ён, то ў адносінах да партыі бальшавікоў можна сказаць, што фальш, мана і ашуканства цёмных масаў зьвілі сабе ў гэнай партыі моцнае гняздо і зьяўляюцца сыстэмай іх партыйнай працы. Сыстэма гэная так укаранілася ў бальшавікоў, што атрымліваецца ўражаньне, быццам бальшавікі маюць дзьве партыйныя праграмы: адна — гэта тая, якую яны прапаведуюць і праводзяць у жыцьцё ў сябе, у савецкіх рэспубліках і другая — гэта тая праграма, якую яны прапаведуюць і здабываюць послух паміж мас за межамі створанага імі Савецкага Раю.

За межамі яго бальшавікі дамагаюцца свабоды слова, друку, свабоды сходаў, арганізацыі і саюзаў, дамагаюцца васьмігадзіннага рабочага дня, нятыкальнасьці асобы і хат — а ў сябе ў Саветах увялі сыстэму нябывалага тэрору, спынілі ўсялякую праяву вольнага грамадзкага жыцьця; замест нятыкальнасьці асобы і хаты ўвялі крывавую расправу чразвычаек і аддзелаў Г. П. У. За межамі Саветаў бальшавікі льюць горкія сьлёзы над кожным палітычным вязьнем і арганізуюць МОПР і адначасна сотні тысяч палітычных вязьняў-сялян і работнікаў трымаюць у савецкіх вастрогах; у сябе без усялякага суда і сьледзтва кідаюць людзей у турму і ссылаюць на катаргу і расстрэльваюць, а за межамі савецкай дзяржавы падымаюць крык з прычыны кожнага палітычнага працэсу.

Увёўшы ў сябе яўнае галасаваньне, як сыстэму выбараў у дзяржаўныя савецкія ўстановы, сыстэму, якая ў корані падрывае магчымасьць свабоднай праявы волі выбаршчыкаў, асабліва ў варунках савецкага тэрору — глядзеце, які гвалт паднялі бальшавікі з прычыны выбараў у Сойм у Польшчы, як вінавацілі польскую адміністрацыю ў прэсіі пры выбарах, якія адбываліся паводлуг сыстэмы тайнай падачы галасоў.

Цяпер, зноў у сувязі з першым мая бальшавікі разаслалі ў замежныя камуністычныя арганізацыі інструкцыі, ў каторых навучаюць, якія лёзунгі павінны выкідаць яны пры сьвяткаваньні першага мая. Інструкцыя гэная, налічае цэлых 46 лёзунгаў, паміж каторымі зьвяртае на сябе ўвагу лёзунг „барацьбы з гарэлкай“. Гэткім чынам бальшавікі даюць наказ за межамі Саветаў ваяваць з п'янствам. А як гэная вайна выглядае ў нетрах савецкіх дзяржаваў?

А вось як: Паводлуг афіцыяльнай справаздачы аднаго з савецкіх народных Камісараў Бухарына, у 1924 г. савецкія дзяржаўныя крамкі прадалі гарэлкі 800.000 вёдзер; у 1925 г. ужо 4.100.000 вёдзер; у 1926 г. — 12.000.000 вёдз., а ў 1927 г. 31.000.000 вёдзер гарэлкі. Чаму гэта так?

Скуль гэны дысонанс, гэная супярэчнасьць, паміж тымі лёзунгамі, якія выкідаюць бальшавікі і тым, як яны іх рэалізуюць у сваёй бацькаўшчыне — у Саветах?

Скуль гэтая фальш і мана, якія гэтак увай-

шлі ў мозг і кроў бальшавіцкіх арганізацыяў і дасяглі гэткага цынізму, што паўстае паміма волі пытаньне: што-ж гэта за партыя, якія яе ідэалы, якая праграма яе? Ці ідэалам яе зьяўляецца тое, аб чым крычаць яны і чаго дамагаюцца за межамі Саветаў — ці тое, што яны робяць у савецкіх рэспубліках.

Калі прыняць пад увагу глыбіню гэтых супярэчнасьцяў, глыбіню тэй прорвы, якая істнуе паміж лёзунгамі бальшавікоў і тым, як яны іх рэалізуюць у сябе, адказ на гэнае пытаньне можа быць толькі адзін бальшавікі, як ідэйная палітычная арганізацыя, перасталі істнаваць.

Дарваўшыся да ўлады ў Расеі, яны думалі шляхам дыктатуры свае партыі — рэалізаваць яе праграму.

Аднак жыцьцё ў кароткім часе разьвеяла ўсе іх ілюзіі і выказала поўную нерэальнасьць яе. Пазбаўленыя ідэйнага фундамэнту, бальшавікі ходам падзеяў прыйшлі да таго, да чаго прыходзіць кожная бяз'ідэйная палітычная група, забраўшая ўладу ў свае рукі; утрымаць яе за ўсялякую цану, вось аснаўны лёзунг бальшавікоў у сучасны мамэнт. Утрымаць яе ня ў імя інтарэсаў працоўных масаў, якія стогнуць пад бальшавіцкім тэрорам больш, чым калі-небудзь за часы самадзяржаўя, ня ў імя ідэалаў рэвалюцыі, аб каторых так ахвотна любяць гаварыць бальшавікі, а ў імя інтарэсаў кучкі людзей, якія кіруюць жыцьцём аграмаднай дзяржавы і чэрпаюць з гэтага кіраўніцтва ўсе тыя выгады, якія можа даць яно.

Толькі пры такім адказе на пастаўленае пытаньне можна зразумець усе супярэчнасьці, аб якіх мы казалі вышэй.

З гэтага пункту гледжаньня прапаганда бальшавікамі сусьветнай рэвалюцыі зьяўляецца нічым болей, як лоўкім ходам савецкай дэфэнзывы, якая ў слабасьці іншых дзяржаваў хоча чэрпаць сілы аслабеўшаму эканамічна і пазбаўленаму дзякі гэтаму свойскага палітычнага значэньня — С. С. С. Р.

## Сыстэма вясковага узгадаваньня моладзі.

(*З Пастаўскага павету*)

Дзеля таго, што беларуская прэса нейк больш пачала цікавіцца лёсам нашай вучнёўскай моладзі і наагул беларускай інтэлігэнцыі, дык я думаю, што і аб вясковай моладзі ўспомніць можна і патрэбна. Лёс вясковай моладзі—гэта справа вельмі паважная, над каторай застанавіцца варта. Заглянуўшы глыбей у крыніцы вясковага жыцьця, шмат можна спаткаць асаблівасьцяй годных увагі. Вясковая моладзь, якая творыць пераважную частку насяленьня нашай бацькаўшчыны, пераважае цяпер парыяд марнатраўства часу (асабліва ў нашым пав.). Моладзь наша мала цікавіцца адраджэнскай працай і для яе ня істнуе нічога вышэйшага і паважнейшага за п'янства і бесталковыя забавы, каторыя ўсягды канчацца бойкамі і рознымі няпрыемнасьцямі. Калі разгледзіць тыя крыніцы, адкуль гэта ўсё выцякае, дык мы ўбачым, што ўся адказнасьць у гэтым выпа-

## Беларуская Народная Творчасьць.

**(Казкі Палящукоў).**

(Гл. „Бел. Дзень“ № 16).

Дасьледчыкі народнай творчасьці беларускага народу аднагалосна сьцьвярджаюць, што яна багата прыказкамі, якія зьяўляюцца сынтэтычным выяўленьнем сьветапагляду народнага. Яркаа казкі палящукоў даюць іх цэлы рад. „Ня вер каню ў дарозе, а жонцы дома“, „Дзе два паны, там ніколі ладу няма“, „Што край, то абычай“, „Што сяло, то нораў, а што галава, то розум“, „На сьвеце ўсяго нажывеш і Кузьму бацькам назавеш“, „Кожны стралец сваю стрэльбу хваліць“, „Круці ня круці, а трэба ўмерці“, „За добрае злым заплата“, „Калі Бог дасьць, то і ў вакно падасьць“, „Што майстар, то і злодзей“, „Не рабі ліхога і ня бойся нікога“, „Гумно плача без гаспадара, а хата без гаспадыні“, „Людзей слухай, а свой розум май і нікога не ўважай“.

Прыказкі зьяўляюцца мастацкімі скаротамі думкі выяўляюць народную мудрасьць аб дасьледаваных справах ці істнуючых у народзе пагляд...х. Каля гэтых прыказак, як па аснове ткальля, тчэ расказчык-мастак прыгожы ўзор, аб'яьсняючы, адкуль вышла такая прыказка. Яна сама паўстала раней за казку, гэта як-бы матыў песьні, ці ідэя прыгожага літэратурнага твору. Вось як аб'ясьняе расказчык адкуль пашла прыказка:

„Цяжкое жыцьцё селяніна, — кажа казка і ня ганіць абычаю, паводле якога плачуць пры радзінах і сьмяюцца, весяляцца пры сьмерці блізкага чалавека. Аплакваюць долю народжанага дзіцяці, бо ня ведаюць, што яго сустрэне ў жыцьці. Рады, пяюць, весяляцца па сьмерці маладзіцы, бо яна мала бачыла бяды на сваём вяку, а памёршы, ужо ня ўбачыць. І ў канцы казка кажа — „ведама, якое сьлімазарнае нашае жыцьцё, часам лепш памёрці, чымся жыць“. Многа цёмнага ў сялянскім жыцьці. Аб гэтых злыбедах яго гавораць казкі. Вось хвароба над хваробамі — гэта п'янства. Яно страшней трасцы, сухотаў, воспы, халеры, разачкі, адзёру і ўсіх іншых. Бо каб ня п'янства, то-б усе хваробы ніводнага чалавека не ўмарылі, сьмерці прышлося б зубы палажыць на паліцу. П'янства робіць больш, чымся ўсе хваробы разам. Яно прыгатаўляе ўсіх для сьмерці, як я ходзіць як па гатовым. Пасьля п'янства вазьме і трасца, і пухліна, і разачка і ўсялякая хвароба І дзеля гэтага, кажа казка — робіць Ніпыпар (Люцыпар) хваробаю над хваробаю і садзіць к сабе на калені.

Паганяць казкі завісьць, якая так шырока істнуе дагэтуль у сялянстве. Завісьлівае вока цяжкае, цяжэйшае чымся камень, кажа казка.

дае на бацькоў, якія ня ўмеюць даць адпаведнага выхаваньня дзецям. І запраўды, калі мы прыглядзімся да вясковага жыцьця моладзі, дык перш на-перш кідаецца ў вочы адсутнасьць усякага выхаваньня. Само жыцьцё так складаецца, што наша вясковая моладзь узгадоўваецца ўдалі ад сучаснай цывілізацыі. Галоўнай прычынай гэтых няшчасьцяў зьяўляецца *цемната і беднасьць* нашых сялян. Дзіця ад раньніх сваіх гадоў у выхаваньні нічым не адрозьніваецца ад парасяці. Корміцца быле чым, апранена ў брудную вопратку і купаецца ў брудзе і балоце. Спачатку топчацца каля рук у хаце, а потым, калі ўжо мае сілу само ўтрымацца на нагах, яго выпускаюць на вуліцу да зборкі другіх дзяцей. Тут яно навучыцца зразу сваркі і брудных вулічных слоў, а пасьля і буянства. Бацькі-ж, чуючы ня раз ад дзяцей брудныя выразы, цешацца яшчэ, што дзіця вельмі здольнае, калі хутка вучыцца такіх выразаў. Такім чынам з малога дзіцяці ўзгадоўваецца ўжо нейкі паўдзікар, які з узростам сілаў, умацняе ў сабе гэтыя карані зла, да якіх прывыкла ў дзецтве. Пасьля наступае школьны час. Нашыя бацькі, дзеля сваей цемнаты і няхвату школы ў роднай мове, стараюцца ня раз дзіця як найдаўжэйшы час утрымаць у хаце. Выначодзяць дзеля гэтага розныя прычыны, каб дзіця як найбольш заставалася ўдому, адзін кажа, што дзіця хворае, другі што дурное, трэці што малое і г. д.

Досьць таго, што ня раз затрымліваюць так дзяцей аж да 10-цёх або 11 гадоў. Калі нарэшце змусяць селяніна сілай выправіць дзіця да школы, ён ня годзіцца з гэтым. Звычайна бацька злы, што сілай прымушаюць хадзіць дзіця ў школу, ня купляе яму ані кніжак, ні сшытоў і рад калі настаўнік выдаляе яго дзіця з школы. Бязумоўна дзіця вельмі лёгка падпадае пад уплывы бацькоў і замест вучыцца і стацца чалавекам, яшчэ горш распускаецца і расьце, як кажуць, на лес гледзячы. Вось з такіх пераважна тыпаў складаецца сягоньняшняя наша вясковая моладзь. Яна трымаецца толькі адной ідэі: гуляць і піць, з якой вынікаюць тысячы іншых ганебных выпадкаў для ўсяго нашага народу. Праўда, з гэтай гушчы шмат ёсьць выняткаў, якія бачаць у гэткім выхаваньні заняпад моральнасьці і вялікія няшчасьці для нашага краю, але іх голас застаецца бяз рэха і губляецца сярод цёмнае масы. Вось тут родзіцца пытаньне, ці-ж для нас няма спосабу іншай сыстэмы ўзгадаваньня нашай моладзі на здаровы элемэнт грамадзянства? Застанавіўшыся над гэтым, спосаб можам знайсьці толькі пры супольнай ахвоце ўсяго агулу нашага грамадзянства. *Пастаўскі.*

## Ад Рэдакцыі.

Падаючы гэты ліст нашага падпісчыка, маладога хлапца, як дакумэнт нашае сумнае сучаснасьці, ня можам не затрымацца над ім.

Наш корэспондэнт з сумам расказвае тое, што яго, як сьвядомага грамадзяніна, маладога яшчэ, але не падобнага да тых яго таварышоў, якіх апісвае, прыкра мучыць, калі відзіць, як блага ўзгадоўваецца і жыве нашая моладзь.

Мо' ня ўсюды так блага жыве моладзь, як гэта прадстаўляе наш малады корэспондэнт, ужо тое, што ён відзіць зло і яго прычыны, сьведчыць аб тым, што ёсьць і разумная, добрая моладзь, ад якой можна спадзявацца ў далейшым жыцьці грамадзкае працы на ніве адраджэньня народу і выхаваньня маладога пакаленьня.

Трэба толькі, каб сьвядомая сваіх грамадзкіх абавязкаў моладзь прыкладам сваім і ўплывам адводзіла таварышоў ад марнаваньня часу і маладых сілаў.

---

Завісьць не дапускае да чалавека пачуцьця шчасьця і завісьлівы ўсё хоча больш і больш — ды на ўсіх наракае. Адна рада, кажа казка—прысыпаць гэтае вока пяском, толькі тады будзе даволны чалавек. Ня толькі чалавеку нялюба завісьць — ня любіць яе і Бог. Вось беднаму брату памог стары дзядок і з аднае кадушкі жыта насыпаў гэты столькі, што яго на 10 гадоў хваціць, а з аднае штукі палатна стала столькі, што хоць на 10 гадоў стане. Даведаўся аб гэтым багаты брат і стала яму завісна. Чакае ён ізноў, калі прыдзе той самы стары дзед. А гэта быў сьвяты Пятро, — прыйдзе ў сяло і зайдзе да яго. Але гэты надышоў на той мамэнт, калі завісны брат кідаў у сабаку камень, а яго жонка нясла ваду. І вось, багаты ўсё зьбірае каменьне да носіць на свой двор, а яго жонка ўсё носіць у хату ваду. От яна нанасіла ўжо вады поўную хату ды і яшчэ прэ. А гэта так зрабіў сьвяты Пятро, каб ня быў такі завісны багаты брат.

Вельмі цікавы пагляд выяўляюць казкі на малітву і праўду. Прышоў поп да пустэльніка. Той пачаставаў яго мёдам. Наеўся поп дый пытае, што ён у лесе робіць? — Малюся, — кажа пустэльнік. — Як-жа ты молішся? — пытае поп. — А от як. — Тут пустэльнік падняўся ды й давай скакаць цераз калоду ды прамаўляць: — Табе Божа і мне Божа. — Нядобра ты молішся, — кажа поп. — Лепш ня ўмею. — Маліся так, і давай гэта поп вучыць пустэльніка маліцца папісьменнаму. Навучыўся пустэльнік і павёў папа цераз лес на дарогу. Прышлі да ракі. Пустэльнік спусьціўся з берагу дый пашоў цераз раку па вадзе, бы па суху. А поп толькі ступіў ад берагу, як шабулдых у ваду па самыя вушы. — Ратуй! — крычыць пустэльніку. Пустэльнік дастаў папа з вады, паслаў на ваду сарочку і па ёй перавёз папа цераз раку. Вышлі яны на бераг, а пустэльнік кажа: — Забыўся я маліцца, павучы яшчэ трошкі. Бачыць тое поп і кажа: — Маліся, як маліўся — мабыць твая малітва прыемней Богу, калі ты ходзіш па вадзе. Пакланіўся гэты поп пустэльніку да зямлі. А пустэльнік зноў пачаў скакаць цераз калоду.

— Праўда — кажуць казкі,—ніколі ня гіне, — праўда наверх заўсёды выйдзе.

Аднак найбольш цікавымі зьяўляюцца казкі ў якіх выказваецца пагляд народу на грамадзкі сучасны лад і яго глыбокая вера ў лепшую будучыну. Прамаўляе тут вялікі оптымізм і здаровая гаспадарская думка аб прычыне зла. Маем у такіх казках цэлую сыстэму грамадзкае будовы ў яе гістарычным прабегу. *С.*

*(Працяг будзе).*

Бацькі таксама павінны падумаць аб тым, што як яны выгадуюць сваіх дзяцей, як іх навучаць, так гэтыя дзеці адплацяць ім на старасьць. За благое ўзгадаваньне наступіць благая адплата, калі даросшы дзеці ня будуць шанаваць сваіх старых бацькоў.

## Што такое землятрасеньне?

У апошнія часы ў многіх мясцох (Баўгарыя, Грэцыя, Турцыя, Італія, Амэрыка, Японія) здарыліся землятрасеньні, якія прычынілі шмат шкодаў і зьнішчылі некалькі вялікіх гарадоў і многа вёсак.

Землятрасеньні здараюцца аддаўна, але толькі ў апошнія часы пачала займацца імі навука, якая вывучае прычыны землятрасеньняў.

Навука гэтая называецца пад'земнай мэтэоралёгіяй, ці сэйсмографіяй.

Наша зямля, паводле досьледаў навукі, была калісьці вогністай куляю, якая ня была адьвярдзеўшай, як цяпер, а ўся цяперашняя зямля: пясок, гліна, каменьні і тое, з чаго складаецца слой зямлі, які можа быць раскопаны цяпер чалавекам, знаходзіўся ў стане плынным, вогністае масы. Маса гэтая памалу астывала, пачынаючы стынуць зьверху. Пасьля на зямлі знайшлося жыцьцё, расьліны, жывёла і чалавек.

Аднак у сярэдзіне зямное кулі (зямля наша круглая, падобная да яйца) асталася вогністая маса, якая дагэтуль не астыла. Што так ёсьць сапраўды, даказвае такое зьявішча. Калі капаюць вугаль і пранікаюць глыбока на некалькі вярстоў у зямлю, дык з кожнай вярстой у глыбіню цяплейшая тэмпэратура на 2 градусы С. Ведама, цяплыня гэтая не залежыць ад сонца, ад нейкае „печы", што знаходзіцца глыбей. Такім гарачым асяродкам, які ўплывае на ўзрост тэмпэратуры (цяплыні) у глыбейшых слаёх зямлі ёсьць якраз неастыўшая зямная маса. Цяплыня там вельмі вялікая, такая, якой трэба, каб пясок, гліна, жалеза, усё тое, што мы бачым у цьвёрдым стане, магло растапіцца і стаць вогністай, гарачай цечай.

Пры астываньні ўсялякае рэчы яна памяншаецца, курчыцца. Таксама было з зямлёю Адгэтуль маем на зямлі горы, даліны і др. няроўнасьці.

Такім чынам у сярэдзіне нашае зямлі ёсьць яшчэ неастыўшая гарачая цечь, якая і зьяўляецца прычынаю землятрасеньняў. Што вызывае іх, дык навука аб'ясьняе гэтак. Ад унутранай астыгшай земное скарлупы адпадаюць вялікія кускі зямлі і падаюць у вогністае мора. У такой застыўшай глыбе зямлі ёсьць вільгаць і яна абарочваецца ў пару. Гэтае пары зьбіраецца вельмі многа, яна хоча знайсьці выхад, ціснe на зямлю і ўстрасае ёю.

Вельмі часта пасьля землятрасеньня паўстаюць вулканы, кудою ужо выходзіць пара з глыбіні зямлі.

Сяньняшняя навука ўжо зрабіла пэўныя досьледы аб азнаках, з якіх можна прадказаць аб збліжаючымся землятрасеньні. Гэтак перад землятрасеньнем высыхаюць студні і награваецца вада. Таксама адчувае маючае наступіць землятрасеньне жывёла: у Японіі фазаны падымалі крык перад землятрасеньнем, жабы змаўкалі, як-бы са страху трацілі голас.

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".**

## Аб гыпнотызьме.

Мала хто пэўне з нашых вясковых чытачоў чуў што-небудзь аб гыпнотызьме, а яшчэ менш мусіць ведае аб тым, што гэта такое.

А запраўды гыпнотызм рэч вельмі цікаўная.

Я ня думаю тутка расказываць аб гыпнотызме з боку навуковага, а хачу толькі апісаць пэўныя праявы гэнага зьявішча, якое бязумоўна ў жыцьці людзей іграе не малую ролю, і аб істоце каторага, ня гледзячы на глыбокую старадаўнасьць гэнага зьявішча, дагэтуль ведаюць даволі мала.

Адну форму праявы гыпнотызму мы бачым у падпарадкаваньні волі якога-небудзь чалавека волі другога — гыпнатызэра.

Такі гыпнатызэр насам перш карыстаючыся розными спосабамі змушае чалавека заснуць. Спосабаў гэтых ёсьць шмат. Адзін з іх палягае на тым, што чалавека гыпнатызэр садзіць на крэсла і наказвае яму глядзець сабе ў вока ў той пункт яго, дзе адбіваецца сьвятло лямпы, сьвечкі, ці якое іншае. Пасьля пэўнага, даволі кароткага часу гыпнатызэр пачынае казаць гыпнатызаванаму, што той чуе сябе зморaным і яго хіліць да сну. Паўтараючы некалькі разоў гэта, ён урэшце дабіваецца таго, што чалавека пачынае адалеваць сон і той паволі засынае.

Сьпіць ён так, як звычайна сьпяць людзі, пачынае іншы раз нават храпсьці. Але гэта сон ня звычайны. Насам перш чалавек гэткім чынам змушаны да гыпнотычнага сну, сам прасНуцца ня можа, а толькі тады, калі яму прыкажа гыпнатызэр і адначасна ўва ўсім падпарадкаваецца волі гыпнатызэра, слухае кожную яго каманду, выконвае кожнае яго прыказаньне і знаходзіцца у гэткім стане, што ня выпаўніць іх ня можа, ня мае сілы: гыпнатызэр прыкажа яму заснуць — той засьне, прыкажа бегчы — будзе бегаць, прыкажа сьмяяцца — будзе сьмяяцца, плакаць — будзе плакаць, зрабіць нейкае глупства — той усё будзе рабіць, быццам нейкая машына.

Дзіўная гэта рэч — але гэта так ёсьць запраўды. Мала таго: гыпнатызэр адным словам сваім можа змусіць загыпнатызаванага чалавека бачыць і чуць такія рэчы, якіх няма. Гэтак напрыклад, падае загыпнатызаванаму алавік і кажа, што гэта вельмі пахучая кветка.

Той бярэ алавік, нюхае яго і відаць з твару загыпнатызаванага, што ён чуе прыемны пах.

Калі гэта хлапец — стараецца прышпіліць гэны алавік-кветку да марынаркі, калі дзеўка — заткнуць яе за валасы.

Гыпнатызэр за хвіліну бярэ той самы алавік і кажа, што гэта зьмяя. І на дзіва: адразу загыпнатызаваны кідае яго і стараецца абмінуць, каб не даткнуцца, а калі падсунуць гэты алавік

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб патрэбе сельска-гаспадарчых арганізацыяў.

Нашая вёска жыве дагэтуль у разброд. Кожны селянін думае толькі аб сабе, адзін перажывае свае беды і радасьці, адзін стараецца каля свайго куска зямлі, якая часта не дае яму хлеба ад ураджаю да ўраджаю. Шмат дзе ўжо цяпер нашыя сяляне даядаюць апошні пуд жыта, а новае яшчэ толькі пачынае падымацца пасьля зімовага сну.

Цяпер пара вясеньняга севу. Большая часьць сялян адчувае недахоп пасеўнага збожжа, або закідае зямлю такім насеньнем, якое на добры лад ніколі не павінна быць бранае на засеў, бо яно і слабое і з зельлем, мала яго ўзайдзе, а яшчэ менш здолее вырасьці і даць добры ўраджай.

Але насеннае добрае збожжа дарагое, грошай няма, бо ў вясковым быце кожная залатоўка вясною рэдкасьць у селяніна.

І часта дзеля гэтага пустуе поле дзеля недахопу насеньня, або засяваецца без усялякага ладу. Адзін, другі, дзесяты і соты селянін у вёсцы ў такім самым палажэньні, кожны мае сваю бяду, якой можа падзяліцца з суседам, але помачы ні адкуль.

А гэта ўсё дзеля таго, што нашая вёска дагэтуль ня жыве коопэрацыйным жыцьцём, што не дацэньвае значэньня і сілы грамады. арганізацыі ў сельска-гаспадарчыя таварыствы і гурткі.

Паводле існуючага ў Польшчы закону сельска-гаспадарчыя гурткі дробнага сялянства, г. зв. „Kółka Rolnicze“, закладаць можна ў кожнай вёсцы і мястэчку. Сябрамі іх могуць быць сяляне-земляробы і інтэлігэнцыя, якая жыве побач з сялянамі. Мэтай сельска-гаспадарчых гурткоў зьяўляецца палепшаньне спосабу ўправы ральлі, вядзеньня сельскай гаспадаркі і падняцьця дабрабыту і багацьця сялян. Залажыўшы сельска-гаспадарчы гурток, дзе складка вельмі малая, сяляне цераз яго могуць атрымаць вялікую помач і карысьць у сваём гаспадарскім земляробскім жыцьці.

У кожным павеце істнуе павятовы сельска-гаспадарчы гурток, які памагае і кіруе працай вясковых арганізацыяў. Пры павятовым гуртку ёсьць аграном, соймікавыя склады штучнага гною, сельска-гаспадарчыя машыны, добрыя гатунковыя расплоднікі-кнуры, быкі, добрае насеньне і г. д.

Толькі цераз вясковы сельска-гаспадарчы гурток можна атрымаць у доўг добрае насеннае збожжа, на расплату сельска-гаспадарчыя машыны, а ад прысланага ў вясковы гурток агранома параду, як лепш абрабляць зямлю, што сеяць і як сеяць, як угнойваць поле штучнымі гнаямі і г. д.

Дагэтуль нашая вёска ня знае, што такое культыватар, спэцыяльная барана, якая вельмі добра разграбляе зямлю, ачышчаючы яе ад зельля. Аднаму селяніну трудна купіць гэткую барану, але сельска-гаспадарчы гурток, да якога належаць усе сяляне вёскі, можа ўжо купіць некалькі культыватараў, трымаць іх на складзе пры гуртку і даваць па чарзе кожнаму суседу. Вялікая карысьць ад сеяньня ня рукою, а сяўнікам. Выходзіць менш насеньня, яно роўна кладзецца на ральлі, лепш усходзіць і расьце. Ведама, трудна купіць такі сеўнік дробнаму гаспа-

---

да загыпнатызаванага, той пачынае ўцякаць, баючыся, каб зьмяя ня ўкусіла. Гыпнатызор можа выклікаць ў мазгу загыпнатызаванага ўражаньне, што ў хаце, дзе ён стаіць — пажар, і той тады альбо ўцякае з хаты і склікае суседзяў, альбо кідаецца гасіць яго і заліваць вадою. Гыпнатызор можа загыпнатызаванаму алькаголіку падаць чарку з гарэлкай і сказаць, што ў чарцы сьмярдзючы гной і загыпнатызаваны тады піць яе ня будзе; можа таксама курцу табакі сказаць, што табака яго, гэта згніўшае сена — і той курыць яе ня будзе, бо бачыць у гарэлцы і ў табацы нейкую сьмярдзючку і адварочваецца ад іх і круціць носам.

Вельмі цікаўная рэч, што гыпнатызор можа наказаць загыпнатызаванаму, каб ён ня чуў болю, і той ня чуе. Бярэ гыпнатызор голку і коле яму ў цела, той ані дрыгне, бо сапраўды ня чуе болю.

Мала таго, гыпнатызор можа наказаць, каб з праколатага месца кроў ня йшла і не пойдзе.

Калі я пішу аб усім гэным, бачу як недаверачы круцяць чытачы галавою і той ці іншы з іх скажа —„ну і брэша!“. Даражэнькія мае, гэта не брахня — усё што я туткі пісаў, што здаецца іншы раз некім цудам — усё гэта чыстая праўда, аб якой я праканаўся сам ня з кніжак толькі, не з таго нават, што бачыў, як усе гэныя штукі выраблялі гыпнатызоры над загыпнатызаванымі людзьмі, але з уласнай практыкі, бо сам умею гыпнатызаваць людзей і быў час, калі гыпназаваў іх шмат.

Навучыўся я гыпнатызаваць яшчэ маладым хлапцом год 19, калі прачытаў у аднэй з кніжак аб тым, што такое гыпнотызм і як карысталіся ім для розных мэтаў 2-3 тысячы год да Нараджэньня Хрыста вучоныя Эгіпту.

У гэтай кніжцы паміж іншым было расказана некалькі спосабаў гыпнотызму. Чытаючы яе, я так сама мала верыў ува ўсе апісаныя там дзіўныя рэчы, як цяпер мала верыць таму, што пішу я, той ці іншы з маіх чытачоў. У хуткім часе ў аднэй кампаніі я расказаў аб усіх гэтых прачытаных мною дзівах. Адна паненачка зацікаўленая маім расказам прыстала да мяне, каб я спрабаваў загыпнатызаваць яе: а можа ўдасца?

Я папрабаваў і ажно спужаўся, калі ўбачыў, што сапраўды паненачка заснула. Я чым хучэй разбудзіў яе і, праканаўшыся, што гэта ня жарты, пачаў больш цікавіцца гэным дзіўным зьявішчам. Чытаў кніжкі, пазнаёміўся з гіпнатызорамі і дахарамі і праз нейкі час дайшоў да таго, што праз нейкі час навучыўся сам гыпнатызаваць людзей.

*Д. П.*

дару, але цераз сельска гаспадарчы гурток, на выплату ўсёю вёскаю ўжо гэта зрабіць можна.

Толькі да сельска-гаспадарчага гуртка будзе прыяждаць аграном і інструктар, які заўсёды парадзіць, як найвыгадней і найлепш справіцца з полем.

Цераз сельска-гаспадарчы гурток можа атрымаць вёска вельмі танна і на выплату штучныя гнаі, аб якіх аграном раскажа, як іх ужываць і калі даваць і колькі, каб бяз страты папрамяць ураджайнасць поля.

Толькі ў сельска-гаспадарчым гуртку знойдуцца прысланыя з павятовае арганізацыі добрыя кніжкі аб гаспадарцы, пры гуртку могуць заснавацца зімою курсы ад гадоўлі жывёлы, аб управе ральлі, агародніцтве, садаводзтве і г. д. Калі-ж вёска ня мае такое, сельска-гаспадарчае арганізацыі, дык ніхто туды не заедзе, сяляне ня здолеюць паправіць свайго матар'яльнага палажэньня і вылезьці з бяды.

Як залажыць сельска-гаспадарчы гурток?

Калі ў вёсцы ёсьць ахвотнікі, трэба напісаць у Павятовы Соймік аграному аб гэтым. Адтуль зараз прыедзе інструктар, ці сам аграном, прывязе статут і пасьля падпісаньня яго і пратаколу аб паўстаньні сельска-гаспадарскага гуртка, ужо далейшая праца пайдзе лягчэй. Ведама сяляне павінны дбаць аб тое, каб урад гуртка, выбраныя суседзі працавалі энэргічна для ўсяе вёскі. У памешканьне сельска-гаспадарчага гуртка трэба часта зьбірацца, чытаць там кніжкі і сельска-гаспадарчыя часопісі, радзіць аб тым, як найлепш гаспадарыць. Вёску такую будзе часта адведваць аграном, які ня зьбірае падаткаў, ня піша пратаколаў, а толькі, як таварыш, раіць сялянам, як і што трэба рабіць, каб палепшыць гаспадарку. Ён дзеліцца сваею ведаю і практыкаю, якую здабыў у школах і ў жыцьці.

У такі спосаб пачыналі сяляне ў Даніі, калі было ім вельмі блага. Трэба і нам беларусам зьвярнуцца ў гэты бок, на дарогу сельска гаспадарчых арганізацыяў, пры помачы якіх здолеем выгнаць усю бяду і ўсё благое з нашых вёсак і хатаў.

*Стары селянін.*

## Як і чым корміцца расьліна.

*(Канец).*

### Паташ.

Да неабходных расьлінных покармаў належыць паташ. У добрай зямлі, не пясчыстай, знаходзіцца паташу патрэбная колькасьць, наймені паташу маюць лёгкія землі, пясчыстыя; ў польных каменьнях ёсьць шмат поташу, аднак знаходзіцца гэты паташ у стане трудна распушчальным.

Паташ знаходзіцца ў значнай колькасьці ў ва ўсіх частках расьліны. Найболей спажываюць паташу акаповыя расьліны, як бульба, буракі, морква, конскі зуб; значнай колькасьці паташу партэбуюць травы і канюшына.

Гной жывёлы, кормленай акаповымі расьлінамі, як бульба, буракі і іншыя і сенам, мае паташовай спажывы для расьлін пад дастаткам. На лугох ня ўгноеных і не заліўных здараецца часта брак паташовага покарму, такія лугі менш даюць сена і трэба іх у паташ узбагачваць.

У кожным попеле знаходзіцца шмат паташу, кожны затым дбалы гаспадар павінен у сябе зьбіраць попел і па мястэчках купляць, каб ім луг свой пасыпаць. Гаспадарскі заход аплаціцца. Луг, пасыпаны попелам, калі толькі не занадта мокры, дасьць некалькі разоў болей сена, а будуць расьці на ім карюшыны і вікі, якіх даўней ня было, а каторыя на гатунак і пажыўнасьць сена вельмі ўплываюць.

Можна таксама ўжываць штучных гнаёў, каторыя маюць у сабе лёгка распушчальны паташ.

Паташовыя ўдабрэньні пераважна не вырабляюцца так, як супэрфосфаты, або тамасоўка, але дабываюць іх з зямлі, як соль.

Найболей ужываным штучным паташовым удабрэньнем ёсьць каініт. Каініту ўжываецца на пясчыстую ральлю 4 — 6 цэнтнараў на гэктар, трэба яго загараць на пару тыдняў перад сяўбой, а калі пад ярыну, то найлепш з восені. Другім паташовым удабрэньнем ёсьць хлёрак паташу, і ён больш адпаведны на цяжкія грунты, ўжываецца яго 1—2 цэнтнары на гэктар.

---

Падаем некалькі прыкладаў, якія паказуюць, як вялікі ўплыў на расьліны маюць штучныя ўдабрэньні.

1. Бяз штучнага ўдабрэньня сабрана з 5 саж.² 108 фунтаў аўса.

Калі-ж расьсеяна 12 фунтаў каініту, 12 фун. тамасоўкі, 4 фун. чылійскай салетры, сабрана на такім самым кавалку зямлі 210 фун. аўса.

2. На 10 саж.² без удабрэньня сабрана аўса 76 фунт.

Калі расьсеяна каініту 24 фун., тамасоўкі 24 фун. і чылійскай салетры 16 фун. сабрана 162 фун. аўса.

Пры даўцы: каініту 24 фун., тамасоўкі 24 ф., *без чылійскай салетры* сабрана 105 фун. аўса.

**Кармавыя буракі.** Сабрана буракоў на 5 саж. без удабрэньня 286 фун. Пры даўцы 24 ф. каініту, 12 ф. тамасоўкі, 12 ф. чылійскай салетры, на гэтым самым кавалку зямлі сабрана 1838 ф.

Такія самыя прыклады далі-б нам дасьведчаньні з нашымі расьлінамі. Гэтыя прыклады пазваляюць нам сказаць наступнае:

1) Збор з зямлі ня ўгноенай без параўнаньня меншы ніж сбор з зямлі адобранай штучнымі гнаямі; а самае збожжа расьце лепш і ёсьць буйнейшае.

2) Гарох і віка (апрача іх усе матыльковыя расьліны) без азотавага ўдабрэньня растуць таксама буйна, як і з азотавым удабрэньнем.

3) Каласістыя збожжы далёка горшы даюць збор без азоту, чымся з азотам.

Для тых, каторыя хацелі-б ужываць штучных удабрэньняў, выплывае з гэтага наступная навука: трэба даваць фосфарны квас і паташ пад матыльковыя расьліны, як лубін, сарадэля, гарох, віка, бобік і канюшына. Гэтыя расьліны, растучы на вышэй ўспомненых удабрэньнях, бяруць шмат азоту з паветра, зьбіраюць яго ў зямлі, такім чынам прычыняюцца да ўзбагачаньня зямлі ў азот; з азоту гэтага карыстаюць засеяныя па іх збожжы. Кошт выложаны на каініт і тамасоўку або супэрфосфат вернецца ў першым годзе ў павялічаным зборы матыльковых расьлін; часьць каініту і тамасоўкі ня зужытая праз іх, астаецца ў зямлі на пажытак для наступнага збожжа, а што най-

важнейшае маем ральлю ўзбагачаную за дарма азотам, які зьяўляецца найдаражэйшым з усіх расьлінных покармаў.

### Вапна.

На зямлі, ў якой вапны зусім няма, гас падарскія расьліны жыць ня могуць. Хаця расьліны вельмі мала вапны спажываюць, аднак да пэўнай ступені ад колькасьці вапны ў зямлі залежыць ураджайнасьць зямлі. Завялікая колькасьць вапны робіць зямлю запалістай і неўраджайнай, такая зямля аднак спатыкаецца ў нас рэдка. Землі, ў якіх вапны мала — кіслыя, халодныя і мала ўраджайныя; землі багатыя ў вапну—цёплыя і ўраджайныя.

Вапна ў ральлі мае такое значаньне, як добры гаспадар у гаспадарцы. Вапна пабуджае ральлю да працы, даводзіць пакармовыя сувязі да таго, каб яны распушчаліся ў вадзе і сталіся даступныя для расьлін, вапна аграває ральлю. На кіслых і халодных грунтох знаходзяцца часта розныя атрутныя сувязі; калі расьліны спажываюць такія сувязі, хварэюць ад гэтага і цалком марнеюць.

Вапна не дапускае да таго, каб атрутныя сувязі распушчаліся ў вадзе, а не распушчаныя ў вадзе ня могуць быць праз расьліны спажытыя і робяцца няшкоднымі.

Гдзе расьце шмат хвашчу, шчаўю, там напэўна вапны замала, і такую ральлю трэба збагаціць вапнай.

---

З усяго, што мы ў парярэдніх разьдзелах даведаліся можам выснуць некалькі праўдаў, аб якіх разумны і старанны гаспадар ніколі не павінен забыцца.

1. Расьліны патрабуюць мець спажыву ў зямлі, на якой растуць; на спажыву складаюцца: вада, азот, фосфарны квас, паташ і вапна. Спажыву з зямлі ўцягваюць у сябе расьліны тады, калі яна распушчана ў вадзе.

2. У гнаі знаходзяцца ўсе покармы, патрэбныя для расьліны. Трэба гной растрасаць найдрабней і загорваць плытка, каб паветра мела прыступ да яго; тады гной хутка згніе, а покармы, якія ў ём знаходзяцца, хутка распусьцяцца ў вадзе. Гной, блага растрэсены і глыбока загараны ня гніе і марнуецца без пажытку.

3. Найдаражэйшы расьлінны покарм гэта азот—бо ён лёгка ўцякае ў паветра. Каб ня траціць азоту, трэба гной зараз па вывязеньні ў поле заараць, а ў стайні і аборы гной пасыпаць сухім торфам.

4. Матыльковыя расьліны чэрпаюць шмат азоту з паветра; ўпраўляючы гэтыя расьліны можна зямлю ўзбагаціць у азот бяз коштаў.

5. У людзкіх адходах ёсьць шмат фосфарнага квасу, ў попеле шмат паташу; трэба старанна зьбіраць адно і другое, апрача гэтага рознае сьмяцьцё, лісьцьця і ўсё гэта мяшаць. У гэты спосаб будзем мець гной багаты ў фосфарны квас і паташ.

6. Халодная і кіслая зямля цярпіць на недахоп вапны, такія землі трэба ўзбагачваць рухляком, або вапнавым балотам.

---

## Ачыстка поля ад шкодных траваў.

Ачыстка поля ад шкодных траваў будзе ў давядзеньні апошняга да гэткага стану, каб на ім пасьля пасеву не магла разьвівацца ніякая іншая расьліннасьць, апрача пасеенага. Мэта ачысткі зразумелая: калі мы пазволім разьвівацца на полі шкодным травам, дык апошнія будуць захопліваць з грунту ўсю ежу, займаць месца, на якім магла-б разьвівацца карысная для нас расьліна. А дзеля гэтага ачыстка поля ад шкодных траваў перад пасевам зьяўляецца неабходным варункам добрай апрацоўкі грунту.

Працэс выдабрэньня і ачыстка ральлі ад траваў знаходзіцца ў цеснай залежнасьці. Ральля, на якой ня гледзячы на апрацоўку, растуць шкодныя травы, ня можа быць выдабраўшай, дзеля таго, што травы, якія распаўсюджваюцца, забіраюць увесь запас ежы; з другога боку, калі мы будзем заорваць грунт выключна толькі, каб зьніштожыць шкодныя травы, не зьвяртаючы ўвагі на працэс выдабрэньня, дык пашкодзім яго разьвіцьцю той ці іншай арбою. Глыбокая арба заўсёды ставіць у гэткія супрацьлеглыя варункі працы каля грунту, дзеля таго, што яна з аднаго боку ня мае магчымасьці дачыста выкараніць шкодных траваў, і апошнія пасьля кожнага дажджу паказваюцца з-пад пластоў, і вымагае ў якнайхутчэйшым часе новай арбы, а з другога боку глыбока перавернены грунт таксама вымагае доўгага часу на выдабрэньне, а дзеля гэтага яго лепш не пачынаць, калі мы маем на мэце працэс выдабрэньня.

Сыстэма няглыбокай арбы лічыцца лепшай затое, што прымірае гэтыя дзьве супроцьлежнасьці. Выкарэньваючы шкодныя травы па гэтай сыстэме, мы нічым ня шкодзім працэсу выдабрэньня; што-ж датычыць ачысткі ральлі, дык, у той час, як гэткая пры глыбокай арбе цяжкая, а часам нават немагчыма, пры нашай сыстэме, якую дае шматгадовая практыка, лёгкая і вельмі танная. Вось гэтыя ўсе травы, якімі зарастаюць нашыя, мала ўгноенныя, палі, магчыма падзяліць на дзьве часьці, ці групы: а) многагадовыя, што размнажаюцца пры дапамозе насеньня, а таксама карэньняў, як напрыклад пырнік і г. д., б) тыя, што размнажаюцца толькі пры дапамозе насеньня, як кукаль, васількі, гарчыца і іншыя.

Да зьніштажэньня многагадовых шкодных траваў мы можам прычыніцца проста, пачынаючы апрацоўку; што-ж датычыць траваў, якія размнажаюцца пры дапамозе насеньня, дык гэткім патрэбна ўпярод даць прарасьці, а пасьля пачаць выкарэньваць ужо маладыя расьлінкі. Адсюль на працу, якая мае на мэце ачыстку поля ад вышэйпералічаных траваў ускладаюцца гэткія задачы:

1) Давядзеньне да прарастаньня насеньня, якое ёсьць у грунце.

2) Зьніштажэньне шкодных траваў, якія вырастаюць ці разьвіваюцца ўжо раней з насеньня, ці многагадовых. Калі, прычыняючыся да апрацоўкі грунту, заарэм яго адразу глыбока, дык у гэткім выпадку зробім дзьве вялікія шкоды: 1) многагадовыя травы будуць хутка вырастаць з-пад пластоў, бо плуг не абварочвае на столькі, каб дзірван ляжаў на зямлі ўверх карэньнямі, але ставіцца пад тым ці іншым кутом; 2) сьвежае насеньне шкодных траваў, высеянае расьлі-

най, ці занесенае на паверхі грунту ветрамі, закопваецца глыбока ў зямлю і захоўваецца шмат гадоў, а насеньне траваў, якое зьбіраецца ў папярэднія гады, падымаецца на паверхню, а дзеля таго апрацоўка не дасягне сваё мэты ўсё роўна, ці будзе лета дажджлівае, ці сухое, а таксама ці апрацоўваем мы папар, ці ўзгорваем поле пад ярыну.

Калі пайдуць дажджы, дык з-пад пластоў вельмі хутка пакажацца шкодная трава; ў выпадку засухі многагадовыя шкодныя травы будуць разьвівацца горш, але затое насеньне траваў не прарасьце, а захаваецца да часу сяўньня і тады, прарастаючы разам з хлебнымі расьлінамі, распаўсюджваецца. Шмат сялян ужо пераканалася, што няглыбокае зьдзіраньне і пераварочваньне паверхні грунту лепш зьніштажае шкодныя травы, чымся глыбокая арба, зробленая адразу. Усякі ведае, дзеля чаго ня глыбокая арба лепш выкараняе многагадовыя шкодныя травы, ці тыя, якія ўжо выраслі з насеньня: пры дапамозе няглыбокае арбы, травы гэтыя падрэзваюцца ў самым балючым месцы (шыйка караня), пасьля чаго яны абавязкава павінны прапасьць; калі-ж вядомая часьць іх і ажыве, дык наступнае няглыбокая арба выкараніць іх вельмі добра. Цяпер зьяўляецца заданьне разгледзець чаму няглыбокая арба лепш, як глыбокая выкараняе *насеньне* шкодных траваў, а таксама і тое, чаму апрацоўкі, якія мы ўжываем выключна з мэтай ачысткі ральлі пры няглыбокім араньні не зьяўляюць кепскага ўплыву на працэс выдабрэньня, які, як ведама, робіцца лепш, калі ральля застаецца некаторы час у супакоі. Зразумела, калі будзем заорваць грунт няглыбока некалькі разоў, дзеля зьніштажэньня пырніку і іншых (ужо растучых) шкодных траваў, якія гэтай дарогай найлепш зьніштажаюцца, дык насеньне траваў засёды застанецца ў 2-х дзюймовай таўшчыні грунту, ў якім можа прарасьці пасьля кожнага дажджу, тым больш, што колькасьць перагною, сабранага пры няглыбокай арбе ў верхнім слаі, нават у сухое лета памагае ўтрымліваньню вільгаці, а дзеля гэтага памагае прарастаньню насеньня.

Зусім іншая справа зьяўляецца з грунтам узараным глыбока зьнізу.

Гіграскапічнасьць гэткай зямлі шмат меншая, а дзеля гэтага ёсьць і меншая надзея, каб насеньне прарасло яшчэ да сяўбы. Пры гэткіх варунках яно прарастае разам з пасеянымі хлебнымі расьлінамі. Але калі ў працягу лета дождж будзе арашаць глыбокую арбу і шкодныя травы прарастуць, дык трэба зьвярнуць увагу на тое, што аднэй глыбокай арбы будзе мала, бо яна паўтараецца 2—3 разы, а таксама і аднаго дажджу ня хопіць, пасьля кожнага араньня павінен ісьці дождж, бо інакш насеньне, здабытае нанова з глыбіні на паверхню, прарасьце разам з збожжам. Пры няглыбокай арбе адзін добры дождж ачышчае грунт ад насеньня, пасьля чаго ральля застаецца чыстай, і насеньне шкодных траваў не падымаецца на паверхню. Няраз кожнаму землятробу прыходзілася зьвяртаць увагу на апрацоўку грунту і няраз абрыдалі яму гэтыя шкодныя травы, зарастаючы пасьля кожнай глыбокай арбы поля, ачышчанага ранейшую працаю.

На працэс выдабрэньня грунту няглыбокая арба, налі нават яе ўжываць выключна дзеля зьнішчэньня шкодных траваў (не зьвяртаючы ўвагі на працэс выдабрэньня), ня можа мець кепскага ўплыву, бо двухдзюймовы слой, які пры гэтай сыстэме заўсёды застаецца на паверхні, павінен дзеля гэтага быць багатым на арганічныя астаткі, дзякуючы чаму працэс выдабрэньня будзе рабіцца вельмі хутка, яшчэ да прарастаньня насеньня шкодных траваў. Дзеля гэтага, прычыняючыся да вынішчаньня апошніх, мы ніколі ня можам пашкодзіць працэсу выдабрэньня, бо выдабрэўшы грунт магчыма ў усялякі час араць, не баючыся нават яго раздрабненьня, небясьпечнага толькі для грунту невыдабрэўшага і пазбаўленага перагною. Зусім іншае пры глыбокай арбе. Тутка шкодныя травы часта прарастаюць і разьвіваюцца раней, чым дабыты з-пад споду грунт выдабрэе, а дзеля гэтага трэба прарываць працэс выдабрэньня і баяцца раздрабненьня.

*S.*

## Колікі ў коняй.

Да найчасьцейшых хваробаў, на якія западаюць коні, зьяўляюцца колікі. Пасьпех лячэньня колікаў залежыць ад таго, як хутка пачынаецца гэтае лячэньне, бо спозьненае лячэньне рэдка ўдаецца. Дзеля гэтага пры першых азнаках хваробы колікаў: конь аглядаецца на жывот, кладзецца на зямлю і варочаецца з боку на бок, трэба адразу адняць каня ад работы, выпрагчы з воза і адвясьці ў стайню, пры тым трэба задбаць, каб у стайні ня было вострых выступаў кантаў, жалабоў, бо пры коліках конь аб такія вострыя рэчы можа хутка скалечыцца.

Колікі выступаюць у дзьвюх формах: лягчэйшай і вострай. Пры першай конь захоўваецца спакойна, ляжыць, мала ўстае, стогне, а ногі, вушы, ноздры і дыханьне халодныя. Калі-ж конь падае, трэцца аб зямлю, то ўскаквае на ногі і вельмі непакоіцца, гэта азначае, што колікі ў такога каня ў форме цяжкай, вострай.

Пры лёгкай форме колікаў, каня трэба паставіць у стайню, высланую саломаю, каб хворы мог свабодна цёрціся, варочацца і выконваць тыя рухі, якія наказвае яму сама прырода. Калі толькі ў стайні на зямлі няма цьвёрдых выступаў—каменьняў, ці чаго іншага, што магло-б пашкодзіць пры качаньні каня, само качаньне пры коліках ня шкодзіць.

Другой дзейнасьцю пры лячэньні гэтай лёгкай формы колікаў будзе леватыва і кампрэс. Кампрэс кладзецца гэтак: бярэцца 4 вялікія мяшкі, два з іх мочацца ў вадзе, якая, выцягненая са студні, пару гадзінаў прастаяла ў вядры ў хаце. Лёгка выціснуўшы ваду з мяшкоў, закладаем адзін мяшок на хрыбет, а другі пад жывот (на жывот) каню. Іншымі двама мяшкамі накрываем гэныя мокрыя і абвязваем моцна лейцамі або падпругамі ад сядла, каб конь, качаючыся, не зьмяніў палажэньня кампрэсу. Два сухія мяшкі павінны быць шырэйшымі, чымся мокрыя, бо інакш іх не закрыюць, а трэба, каб сухія мяшкі добра прыкрылі намочаныя.

Пасьля налажэньня кампрэсу хвораму каню трэба рабіць леватыву з чыстае вады, тэмпэратуры 20°—22° С. (гэтую тэмпэратуру мае вада, якая стаіць у цёплай хаце). Леватыву даюць каню цераз кожныя 15 мінут, але ня больш адразу як $^1/_2$—$^3/_4$ літра (2—3 шклянкі). Многа вады адразу ўліваць нельга. Леватыва ачышчае жалудак і па-

будждае кішкі да работы. Паміж леватывамі трэба памалу праводзіць хворага каня па мягкім грунце (не па бруку). Вадзіць можна мінут 5 найбольш. Вось і ўсё лячэньне. Яно можа трываць ад гадзіны да 4-х без перамены наложанага кампрэсу і звычайна канчаецца выздараўленьнем каня.

Калі конь мае вострую форму колікаў, гэта значыць калі ня падае на зямлю, а толькі ляжыць уздуты і стогне, або сядае на пярэднія ці заднія ногі, дык у гэтым выпадку трэба прыступіць да такога лячэньня.

Цераз кожнае поўгадзіны даюць каню выпіць ½ літра вады (2 шклянкі) з дамешкай 16 грамаў (1⅓ лота) звычайнае кухоннае солі. Леватыву робім таксама цераз кожныя 15 мінут у колькасьці ад ¼—½ літра (1—2 шклянкі) вады, але халаднейшай 15°—18° С. (трэба мерыць тэрмомэтрам).

Таксама трэба палажыць кампрэс, як у першым выпадку, але тут могуць быць два выпадкі:

2) Калі кампрэс змычаны ў вадзе з тэмпэратурай 15°—18° С. добра выціснуты памагае, гэта значыць калі пасьля 10 мінутаў ад налажэньня кампрэсу, ўсунуўшы пад кампрэс руку, чуем, што скура каня пацяплела, тады гэты кампрэс добры, але толькі яго трэба зьмяняць што паўгадзіны, або штогадзіну. Кожны раз зьняўшы для перамены кампрэс перад новай накладкай трэба моцна націраць бакі каня саламянымі вехцямі, намочанымі ў халоднай вадзе. Уціраем бакі датуль, пакуль яны зробяцца сухімі і пасьля накладаем ізноў кампрэс.

2) У другім выпадку—найцяжэйшым, калі гэтак наложаны кампрэс цела каня не разаграваe, а ноздры, вушы і ногі робяцца халоднымі, тады адразу трэба стасаваць гарачыя аклады.

Робяцца яны так: мочым плахту або мяшкі ў вельмі гарачай вадзе, лёгка выціскаем і, як ужо было сказана, абкладаем каня. На гэтую, змочаную ў гарачай вадзе плахту ці мяшкі кладзём тоўстую шырокую дзяругу. Такія гарачыя аклады трэба зьмяняць цераз 10—15 мінут. Падобна-ж акладаем і ногі каня і таксама зьмяняем аклады цераз 10—15 мінут. Кожны раз, зьмяняючы гарачы кампрэс, трэба глядзець, ці скура і цела каня не разагрэлася. Пасьля таго, як цела сагрэецца, а цераз адходную кішку, пасьля леватывы (леватыву даём без перарыву, як паказана вышэй), пачнуць разам з вадою выходзіць газы і рэшткі калу, што будзе абазначаць папраўку каня, трэба перастаць рабіць гарачыя аклады і далей рабіць ужо халодныя кампрэсы (як паказана) і даваць леватывы аж да поўнага выздараўленьня.

Калі хвароба вельмі цяжкая, можна пасьля таго, як пайдзе з адходнае кішкі кал, даць каню леватыву з ¼—⅙ (ад ¾ да 1 шклянкі) вельмі халоднае вады, каб кішкі лепш працавалі.

Усё гэтае лячэньне вельмі простае і вымагае толькі тэрмомэтру, леватывы і мяшкоў.

---

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Работы на пасецы ў красавіку і ў траўні.

(Гл. № 16 „Б. Д.“).

Найбольшы голад зьяўляецца ў пчол тады, як зацьвіце бэз і каштаны, дзеля таго, што ў гэтую пару ў вульлі ёсьць найболей чарвы, а пажытку ў полі яшчэ зусім мала, а такім пчолам найменей трэба спажыць, у працягу месяца, два кілёграмы мёду.

Каб упэўніцца, ці пчолы маюць запас мёду і ці наагул добра маюцца, ці матка ня ёсьць трутнёўкаю, ці ёсьць пладавітаю, робім гэтак званы другі вясеньні перагляд пчол (першы перагляд робім, каб пасьля зімы падмясьціц пчолак і ачысьціць вулей ад ўсякага сьмяцьця і гнілі). Другі перагляд робіцца звычайна, тады, калі на дварэ ўстановіцца тэмпэратура 15°С, г. зн. калі пчаляр у аднэй сарочцы можа хадзіць па пасецы.

Аб колькасьці мёду ў вульлёх можам пераканацца толькі тады, калі разьбярэм і перагледзім гняздо. Гэтую дзейнасьць старайма з якнайменшаю шкодаю для вульля зрабіць, а дзеля гэтага адчыняем вулей у ясны, пагодны, ціхі дзень, выконваючы работу шыбка і спраўна. Аглядаем звычайна са дзве. ці са тры рамкі, а ў апошніх звычайна знаходзіцца чарва. Глянуўшы на запячатаваную чарву, можам сканстатаваць, ці матка ня ёсьць трутнёўкаю (чарва трутнёўкі па запячатаваньні — гарбатая). Пры гэтай рабоце ўбачым гэтак сама, ці гняздо не зашмат рамак маець, і ці яго ня трэба паменшыць: калі так, то выймаем са дзьве рамкі з гнязда, толькі без чарвы. Перагляд пачынаем ад тых вульлёў, якія слаба аблётваюцца, альбо якія часта непакояцца, дзеля таго, каб у час пасьпець да іх з помаччу. Што да корму, дык трэба сказаць, што ён складаецца ў пчолак галоўным чынам з пяргі і мёду. Пярга, пылок, які пчолкі зьбіраюць з кветак, складаецца з бялкоў і клустасьці. Гэтыя дзьве складовыя часткі зьяўляюцца неабходнымі для стварэньня пчалінага арганізму, а дзеля гэтага пярга маець так вялікае значэньне, што ў выпадку, калі яе ня хопіць, хаця-б і мёду было колькі трэба, то матка ўсё роўна перастанець чарвіць, бо мёд гэтых самых складовых частак ня маець, а дзеля гэтага і ня можа заступіць пяргі, альбо калі ў поблізу няма яе ўзяткі, дык тады можна даць пчолкам бялковага корму, які можна зрабіць, зьмяшаўшы сьвежыя яйкі з мёдам, альбо малако з цукрам. Недахоп пяргі заўсёды можам назнаць, калі яе няма ў крайняй рамцы. Калі ў поблізу цьвіцець рапак, дык пчаляр можа быць спакойны, дзеля таго, што пчолкі шмат з яго могуць набраць пяргі.

Дзе ў гнязьдзе знойдзецца шмат пяргі, там мы можам пабудзіць матку да большага чарвеньня, устаўляючы паміж рамак з пяргою, пустыя зусім рамкі. Гэтак сама можна яшчэ пабудзіць пчолак і матку, цераз падкормліваньне, да размнажэньня.

Цераз падкормліваньне мы памагаем беднаце прыроды вясною і цераз гэта пабуджаем матку да чарвеньня. Найчасьцей гэтае пабуджэньне можна зрабіць пры помачы даваньня пчолкам сыты (рошчына мёду з пераваранаю вадою). Гэтая рошчына прыпамінаець сабою кветачны нэктар, які зманьваець сабою матку, прыпамінаючы

ёй аб тым, што краскі зьявіліся на палёх і што трэба чым найбольш вывясьці маладых пчолак, каб магчы яго сабраць у найбольшай колькасьці. Гэтак сама зманваюцца сытою і пчолкі, думаючы, што прырода сама ссылаець ім нэктар, патрэбны да выкормліваньня патомства.

Даём сыту тады, калі ўжо цяпло на дварэ, цераз кожны дзень па дзьве-тры ложкі, бяручы ложку мёду на дзьве ложкі пераваранай вады. Гэтую сыту пчолы хутка забіраюць і складаюць яе ў чарачкі, ачышчаючы іх потым, робяць іх ляпей прыдатнымі для складаньня яечак; пры гэтай рабоце набіраюць жыцьця і рухавасьці. З прычыны пабольшанай рухавасьці пчолак, цяплыня ў вульлі павялічваецца; пчолкі-ж абагрэтыя цёплаю ежаю, абсядаюць сабою большую колькасьць каморак і мацней іх награваюць, а матка з свайго боку скарэй абагрэтыя чарачкі зачэрвіць. Гэткім спосабам цераз умелае кармленьне пчолак сытою, паміма браку ўзятку на полі, чарва будзе хутка выводзіцца і можна спадзявацца, што на час багатага мёдабраньня, пчолкі дайдуць да пажаданае сілы.

Пры гэтым трэба сказаць, што ня кожны вулей можна падкормліваць сытою, а толькі той, які маець: 1) маладую матку, 2) шмат маладых пчол і 3) цёплы вулей. Старая матка, ужо вычарпаная, ужо ёй не хапае яечак, а дзеля гэтага падкормліваньне ёй ня можа памагчы; дзе ёсьць мала пчол у вульлі, там не паможаць а ні падкормліваньне, а ні плодная матка, дзеля таго, што не хапае там работніцаў для выседжваньня чарвячкоў і для зношаньня ў вулей пяргі. У халодным вульлі гэтак сама пабуджальнае падкормліваньне нічога не паможа, дзеля таго, што з браку цяплыні ў вульлі чарвячкі ня так хутка выводзяцца і не ў такой колькасьці.

*Пчаляр.*

(*Працяг будзе*).

# Корэспондэнцыі.

## Аб нашым жыцьці.

(*Сталіца, Гэрманавіцкай вол.*).

Цяжка жывецца нашаму селяніну, забіты ён горам і паняверкай. Але ў гэтым часта сам вінават. Несьвядомыя мы і цёмныя. Ня ўмеем памагчы свайму гору, ня ўмеем зарадзіць патрэбе ў гаспадарцы, не памагаем адзін другому ў сваёй бядзе, часта марнуем грош непатрэбна на водку, выкідаем яго дарма і на сваю згубу. А найгорш, што мы сяляне ня знаем таго, якая сіла ў згодзе, калі-б уся вясковая грамада жыла-б дружна і адзін другому памагаў-бы. Відзім мы, як жывуць, прыкладам, жыды, як яны памагаюць у бядзе адзін другому. Аднак так самі ня робім, хоць разумеем, што толькі згода і спагаданьне бядзе суседа дый помач яму паправіла-б ня раз нашыя сялянскія беды і гора. У нас, беларусаў, няма гэтага і асабліва цяжка таму селяніну, які мае патрэбу на грош.

За пазыкі трэба плаціць вялікія проценты, дый пазычыць трудна. Ёсьць у нашай валасьці пазычковая каса „Stefczyka“, але і там вялікія проценты. Пазычыць сто зл., а аддаць трэба 120. Вось, каб мы жылі згодна і дружна, дык тады ня трэба было-б плаціць такіх процантаў. Браты, сяляне! Схамянемся, ад нас залежыць наш лёс у многім, будзем жыць згодна і спагадліва, а тады жыцьцё нашае будзе весялейшае і лепшае.

*К. Бяздольны.*

## Кліч абавязку.

(*м. Сьвержань, Стаўпецкага павету*).

На Вялікдзень 16 га красавіка г. г. адбыўся ў нас, у салі Народнага Дому, спэктакль-вечарына, пры актыўным удзеле беларускага мясцовага студэнства і мясцовае інтэлігэнцыі. Адыграныя былі дзве п'есы: „Боты“ і „Мікітаў лапаць“. Ігра на сцэне прайшла зусім добра, асабліва ад'значыліся студэнты У. С. Б. у Вільні, А. Шкутка, А. Калоша і О. Астроўская, артыстка былога Народнага тэатру Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Глядзельнікаў была паўнюсенькая саля. Чысты прыход вынес больш сто залатых. Прыход гэты аднагалосна пастаноўлена ахвяраваць і пераслаць у Беларускую Радашкаўскую гімназію, на дапамогу бедным вучням, што безадкладна на другі дзень і было зроблена. Нічога ў тым дзіўнага, што адбыўся спэктакль-вечарына. Пры добрай ахвоце заўсёды яго можна зладзіць; глядзельнікаў ніколі не забракнець. Да свайго роднага ўсякі з ахвотаю горнецца і нешкадуець якое-небудзь залатоўкі на білет.

У гэтым выпадку аднак-жа трэба зьвярнуць увагу на што другое, а імена на тое, што моладзь зразумела свой абавязак у адносінах да тых, хто ў роднай мове ня раз у цяжкіх варунках, а можа і выключна ў іх, стараецца здабыць асьвету. Сто залатых дапамогі для беларускае гімназіі ад моладзі аднаго мястэчка! Колькі-ж у нас, у Заходняй Беларусі такіх мястэчак і вёсак, дзе-б можна было часта-густа зладзіць спэктакль-вечарыну і выбранымі грошамі памагчы бедным вучням беларускіх гімназіяў? Я думаю, што ня мала, як і ня мала інтэлігэнцыі жывець па гэтых мястэчках і вёсках, якая, як чало народу, павінна зразумець гэты кліч абавязку і старацца памагчы сваім выхадцам з вёскі, якіх ахвота да навукі і каханьне ўсяго свайго роднага завець, ісьці і здабываць асьвету, павялічваючы потым кадры піонэраў-барацьбітоў за свой Народ. Тымчасам, разглядзеўшыся навакол, прыходзіцца адцеміць, што паміма многіх заценак і развважаньняў на гэтую тэму, разультат з яе благі. Віна тут уся ў незразуменьні справы і ў тым вялікім песымізьме, які апанаваў шмат дзе нашую мясцовую інтэлігэнцыю, асабліва старэйшую. Бо маладая інтэлігэнцыя якраз глядзіць на ўсё оптымістычна, не зважаючы на ніякія перашкоды. Вот-жа ў тым і ўся наша задача і ўвесь наш абавязак, каб памагчы гэтай маладой інтэлігэнцыі дайсьці да свае мэты. А дзеля гэтага прыклад сьвержанскае інтэлігэнцыі няхай паслужыць добрым прыкладам усім тым, хто яшчэ любіць свой Народ, сваю мову, сваю Бацькаўшчыну і усё сваё роднае і няхай будзе клічам да сьвятога выпаўненьня абавязку перад маладым пакаленьнем.

*Сьвяржэнські.*

## З жыцьця Наваградчыны.

### На Сьвітэзь.

29 красавіка г. г. п. ваявода Бэчковіч выехаў на возера Сьвітэзь, дзе разам з сябрамі Краязнаўчага Т-ва будзе разглядаць справы палёгкаў для спадзяваных краязнаўчых экскурсіяў.

Возера Сьвітэзь, як мэта краязнаўчых экскурсіяў, заслугоўвае не асаблівую ўвагу, таму была абгаворана справа засаджаньня лесам абшару, які акружае возера. Спадзявацца трэба, што ў бягучым годзе, дзякуючы істнаваньню схову для турыстаў, будзе многа экскурсіяў на Сьвітэзь, якая сваей несамавітай прыгожасьцяй вабіць вандроўца.

### Адчыненьне курсу агнятрывалага будаўніцтва.

28 красавіка г. г. ў салі Наваградзкай гімназіі адчынены курс агнятрывалага будаўніцтва. На курс прыбыло некалькі дзесяткоў учасьнікаў з усіх бакоў Наваградчыны. Мэта курсу ня толькі навука агнятрывалага будаўніцтва, але прапаганда таго, што агнятрывалы будынак таньнейшы, трывальшы і мацнейшы за будынак з дерава.

Адчыніў курс прамовай п. ваявода Бэчковіч, які сказаў, што Навагаадчына, праз якую прайшла ваенная бура, павінна пакрыцца агнятрывалымі будынкамі.

### Гурткі кантролю абораў у Наваградзкім павеце пачынаюць працу.

Заангажаваны нядаўна асыстэнт кантролю абораў п. Белавескі пачаў з 27 красавіка працу ў раёне малачарскай коопэратывы ў Крупе.

Ваяводзкі Саюз Земляробскіх Гурткоў выслаў асыстэнта кантролю абораў у раён малачарскай коопэратывы ў Тракелях.

29 красавіка адбылося арганізацыйнае паседжаньне з мэтай залажэньня гуртка кантролю абораў у раёне малачарскай коопэратызы ў Дварышчы. Адначасна сябры ўспомненай коопэратывы залажылі мэліорацыйную супалку, якая цяпер абыймае маёнтак і калёнію Дварышча і вёскі Гімбуты I, II і III і Мергінцы.

### Беларускі спэктакль-вечарына.

*м. Баранавічы, Наваградзкага ваяв.*

У суботу, 28 красавіка б. г. сябрамі Т-ва Беларускае Школы ў Баранавічах, наладжаны быў спэктакль. Вечарына пачалася вершавым прывітаньнем В. Шага. Потым была адыграна камэдыя Ф. Аляхновіча „Пан Міністар". П'есу трохі перарабілі, замест „міністар" ужывалі „пасол". Роль Пупкіна згуляў Зарожны, каторы ў другім, а асаблива ў трэцім акце даў некалькі вельмі сільных мамэнтаў.

Г. Гурская, у ролі Любы, аддала ўдачна й натуральна некаторыя месцы ў другім акце. Часам чулася, што яна першы раз на сцэне. В. Шаг у ролі Сьветляка мог бы быць лепшы. Відно было, што гэта не яго „амплуа".

З праўдзівым мастацтвам і натуральнасьцю правяла ролю Марты г. Алёна Шабан, даючы вельмі жывы беларускі тып. За тое-ж значнейшая частка воплескаў, каторымі награджалі прысутныя артыстаў, выпадала на яе долю.

Пасьля спэктаклю В. Шаг дэклямаваў свае вершы, за што быў нагароджаны гучнымі воплескамі публікі.

Потым пачаліся скокі, каторыя зацягнуліся да 5 гадз. раніцы.

Агульнае ўражаньне ад спэктаклю вельмі добрае. Відзеўся ўсюды лад і парадак.

Рэжысэраваў Ф. Цялуоўскі, каторы палажыў шмат працы на арганізацыю спэктаклю.

*Максім Карновіч.*

## Хроніка.

### З Беларускага Студэнскага Саюзу.

У суботу 28 красавіка г. г. ў памешканьні Т-ва Беларускае Школы вул. Сьв. Ганны 2 прачытаў лекцыю грам. Вялецкі на тэму: „К. Сваяк — як лірык". Была гэта першая лекцыя,ладжаная Студэнскім Саюзам пасьля Вялікадня.

### Інтэрвэнцыя пасла Ярэміча.

Пасол Ярэміч інтэрвэньяваў у пракурора пры Віленскім Апэляцыйным Судзе ў справе арышту рэдактара „Сялянскае Нівы". Рэдактар мае быць звольнены пад залог.

### Суд над „Грамадой".

Паседжаньне Суда назначана на 4 мая. Судовы працэс закончыцца 4-5 мая. Пасьля начнуцца прамовы пракурораў і адвакатаў. Прыгавару трэба спадзявацца каля 15 мая.

### Пажары ў Віленшчыне.

У суботу 28 красавіка паўстаў вялікі пажар у мястэчку Опсе, Браслаўскага павету. Агонь пачаўся а 10 г. раніцай. Прыбылі пажарныя варты з Браслаўля і Дукштаў і толькі пасьля 6 гадзінаў удалося агонь зглуміць. Спалілася 43 дамы, касьцёл з плебаніяй, пастарунак паліцыі, школа, коопэратыва, коопэратыўны банк. Страты не аблічаны, аднак большыя за 1 мільён злотых.

Гэтага-ж самага дня згарэла вёска Дварчаны, у ліпнінскай валасьці. Згарэла 3 дамы, 10 гумен і 10 гаспадарскіх будынкаў з збожжам і мёртвым інвэнтаром. Агульныя страты 40 тысячаў злотых.

### Стан азімін.

Азіміны ў Валожынскім павеце наагул прадстаўляюцца блага.

### Дэманстрацыя гандляроў.

Перад некалькімі днямі ў Старых Сьвянцянах мясцовыя купцы, нездаволеныя з надмернай высокасьці назначанага ім абратовага падатку, устроілі дэманстрацыю перад Стараствам. Старасва абяцала разглядзець справу.

### Суд над сэн. Рагуляй.

Суд над сэнатарам Рагуляй у Апэляцыйным Віленскім Судзе назначаны на 9 мая г. г.

## Юрыдычныя парады.

**А. М. Пліса.** *Запытаньне*: Праз нашы агароды ідзе рака і залівае нашыя лугі і агароды. На лугі гэныя выходзіць рыба, а калі мы яе ловім, дык абшарнік адбірае сеці і робіць пратаколы

дзеля таго, што рака выцякае з яго возера. Ці маем мы права лавіць рыбу на рацэ, якая працякае паміж нашых палёў і ці можа абшарнік забараніць нам лавіць рыбу?

*Адказ*: Калі рака працякае сярод вашага поля, дык лавіць рыбу можаце. Ніякі абшарнік забараніць Вам гэтага ня можа. Вы, як уласьнікі берагу, можаце ня пусьціць нікога на свае берагі без дазволу. Тое, што рака выцякае з возера, ня мае ніякага значэньня.

**Грам. К. Р—чу.** *Запытаньне*: Цётка мая бязьдзетная, аўдавела вясной мінулага году. Пасьля мужа засталася гаспадарка з 9 дз. з будынкамі. Гаспадарка гэная заставалася ў карыстаньні цёткі, хаця пляменьнікі мужа і заявілі ёй, што зямлю адбяруць. Умовіліся, што цётка атрымае г. зв. „удоўю долю“. Увосень цётка захварэла і памёрла. Будучы ўжо хворай яна напісала тастамант, якім запісала мне належную ёй удоўю долю. Доля гэтая фактычна выдзелена ёй ня была. Цяпер пляменьнікі мужа кажуць што мне нічога не дадуць. Тастамант зацьверджаны, але няма ведама, што і як зрабіць, каб атрымаць тое, што цётка запісала?

*Адказ:* Насьледнікі па закону ці з тастамэнту могуць атрымаць ўдоўю долю насьледадацеля толькі тады, калі, альбо гэтая доля фактычна была выдзелена з маемасьці памёршага мужа (ці жонкі) і ўдава (ўдавец) абняла гэную долю ў сваё карыстаньне, альбо, калі выдзелу і ня было яшчэ, але ўдава (ўдавец) заявіла (у Суд, ці хоць-бы ў гміну) аб сваім жаданьні выдзяліць ім удоўю долю. У вашым выпадку — фактычнага выдзелу ня было. Застаецца другое: ці была заява аб выдзеле? Калі гэткай заявы ня было—справа дрэнь: тастамант не паможа хоць і зацьверджаны. Аднак дзеля таго, што насьледнікі мужа вашай цёткі ўмовіліся выдзяліць ёй ейную долю — падайце ў Суд позву аб выдзеле. Злажэце тастамант і ссылайцеся на ўмову аб выдзеле, які не дайшоў да скутку з прычыны перадчаснай сьмерці цёткі.

# Апошнія навіны.

29 красавіка прыехаў у Варшаву Аманулях, кароль Афганістану. Караля на вакзале сустрэў Прэзыдэнт Рэспублікі з міністрамі.

Кароль Аманулях прабудзе ў Польшчы 3 дні. Да гэтай пары ён адведаў Нямеччыну, Англію, Францыю і Італію. З Польшчы ён едзе ў С. С. С. Р., а стуль у Афганістан.

Марш. Пілсудскі ахвяраваў каралю школьны аэраплян польскага вырабу і 100 стрэльбаў таксама польскага вырабу.

Афганістан, каралём якога зьяўляецца Аманулях, ляжыць у Азіі, па суседству з Пэрсыяй. Праз Афганістан вядзе дарога з Расеі ў Індыю. Таму Англія і С. С. С. Р. стараюцца ўвайсьці з каралём Амануляхам у саюз.

**Францыя. Выбары ў францускі Парлямант.** Аканчальныя выбары ў парлямант, якія адбыліся 29.IV г. г., прынясьлі вялікую перавагу ўраду Пуанкарэ. Гэта азначае вялікае даверые да ўраду, які правёў фінансавую і гаспадарчую паправу дзяржавы. Характарна вельмі, што камуністыя, як і крайняя правіца, страцілі шмат галасоў.

**Аўстрыя.** Арышт б. камуністычнага дыктатара Вэнгрыі. У Вене арыштованы Бэла-Кун, б. дыктатар кам. у Вэнгрыі. Бэла-Кун прыехаў нелегальна ў Аўстрыю, з намерам прыгатаваць камуністычны пераварот у Вэнгрыі і Аўстрыі. Вэнгэрскі ўрад дамагаецца выдачы Вэнгрыі Бэла-Куна, дзе яго вінаваццяць у крымінальных праступках.

Трэба ад‘значыць, што Бэла-Кун іграў вялікую ролю ў Камінтэрне, быў блізкім прыяцелем Сталіна і кіраваў балканскай і сярэдня-эўрапэйскай сэкцыямі III Інтэрнацыяналу. Магчыма, аднак, што Бэла-Кун будзе выданы назад Саветам.

**Землятрасеньне ў Баўгарыі і Грэцыі.** Страшэннае землятрасеньне наведала Баўгарыю і Грэцыю. Асабліва места Сьмірна ў Баўгарыі зьнішчана, а ў Грэцыі Карынт. Страты вялікія. Шмат людзей забіта.

**Амэрыка. Буры і залівы ў Амэрыцы.** У палуднёва-ўсходніх штатах Амэрыкі наступілі страшэнныя залівы і буры. Згінула 6 чал. 6 тысяч людзей асталося бяз даху. Матар‘яльныя страты дасягаюць 7 мільёнаў даляраў.

Гураган, які панаваў на берагох атлянтычнага акіяну, зьнішчыў засевы на мільёны даляраў і разрушыў шмат дамоў. Параходная камунікацыя спынена. Згінула 12 чалавек.

**С. С. С. Р. Чыноўнік савецкі забойцай і супольнікам бандыдаў.** З Масквы даносяць, што б. старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Крымскай Рэспублікі Вэлі-Ібрагімаў і яго сэкратар абвінавачаныя аб утрымліваньні сувязі з шайкай бандытаў і дакананьні цэлага раду забойстваў засуджаны на сьмерць. З 14 іх супольнікаў 3 толькі апраўданы, рэшта засуджаны.

**Гураган у С. С. С. Р.** Гураган на Азоўскім моры захапіў Мэлітапольскі, Крываорожскі, Запарожскі, Херсонскі і Днепрапятроўскі вокругі. Даносяць, што над Мэлітопалем цэлы дзень і ноч стаялі хмары пылу і засланялі дняўны сьвет. Зьнішчаны тэлеграфныя, тэлефонныя і электрычныя провады. Гураган зрабіў над‘звычайна многа стратаў. Сэвастопаль быў пазбаўлены ў працягу пары дзён сьвятла.

**Адгадкі загадак з № 15 (55) „Беларускага Дня“.**

1. Скрыпка.
2 і 3. Гарэх.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул Сьв. Анны 3